# СПРАВЫ ДП

## ДЗЕСЯТАЯ ПРЭСАВАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ ІРО

«Галоўная наша мэта — дабрадзейнасьць дзеля папраўы цяжкага лёсу Д. П. і ўцекачоў — заявіў новы Дырэктар ІРО на амэрыканскую зону сп. Э. Раен, зьвяртаючыся да прадстаўнікоў Д. П. — прэсы на канфэрэнцыі 8.9.48 г. ў Бад-Кісінген. Гэтае кароткае, але абнадзейваючае сьцьверджаньне было прынятае прысутнымі зь ціхой і глыбокай удзячнасьцю. Трэба прызнаць, што сама асоба новага Дырэктара ІРО, як і ягоная цёплая прамова зрабілі на прысутных як найлепшае ўражаньне. Шырокія масы ўцекачоў, здаецца небеспадстаўна, — могуць спадзявацца, што цяжкая іхная доля знаходзіць ужо належнае зразуменьне й спагаду сярод кампэтэнтных дзейнікаў.

Праведзеная спадарыняй Фэдэр, часова выконваючай абавязкі шэфа аддзелу інфармацыі, канфэрэнцыя выясьніла, хоць не заўсёды дэфінітыўна, шмат пытаньняў нашае праблемы. Першым зь іх была справа адцягваньня з заработнае платы працуючых Д. П. сумы 70 марак месячна і чаму гэтае распараджэньне ўладаў мае дзеіць узад ад 1.7.48 г. З адказу сп. Вільямса (аддзел фінансаў) вынікае, што прычынаю фінансавых цяжкасьцяў ёсьць праведзеная ў Нямеччыне валютная рэформа, у сувязі зь якой ОМГУС — Бэрлін (Ваеннае Кіраўніцтва) дамагаўся скарачэньня штатаў або заработнай платы Д. П. Пасьля трохдзённых зацяжных дыскусыяў ў Бэрліне, у якіх прынялі ўдзел, побач із шматлікімі фінансавымі экспэртамі, генэральны сакратар ІРО ў Жэнэве сп. Так, губэрнатар амэрыканскай зоны Нямеччыны генэрал Клей і інш., было прынятае скарачэньне заработнай платы на суму 70 марак у месяц, дзякуючы чаму магчыма будзе ўтрымаць штаты ў дасюлешняй вялічыні. Гэта азначае, што дзякуючы скарачэньню заработнай платы ня будзе скарачэньня штатаў. З гэтае сумы 70 марак адна частка (50 марак) пойдзе на аплату коштаў утрыманьня (харчы, памешканьне) і ўсіх іншых дабрадзействаў, якімі карыстаюцца Д. П. з боку ІРО, а другая частка (20 м.) пойдзе на асобны фонд, які будзе скарыстаны дзеля культурна-асьветных і іншых патрэбаў тых-жа Д. П. З такім вырашэньнем гэтае справы Галоўная Гаспода ІРО на амэрыканскую зону быццам ня зусім згаджаецца і свае закіды што да гэтае пастановы пераслала ўжо ў Бэрлін ды чакае адтуль канчатковага адказу.

Далей была парушана праблема Д. П.-студэнтаў, у прыватнасьці факт, што ў францускай і ангельскай зонах яны фактычна звольнены ад высокае сымэстрыяльнае аплаты (200 — 250 м.). Адказваючы на гэта, сп. Грыг сьцьвярджае, што ў францускай зоне ў запраўднасьці звальненьняў няма (!), а ў ангельскай зоне займаецца гэтым ваеннае кіраўніцтва. ІРО ў Жэнэве справы гэтае дасюль не разьвязала. Выданае ў міжчасе распараджэньне дае малую магчымасць нясеньня дапамогі тым, хто студыюе прафэсіі, карысныя пры рэпатрыяцыі ці эміграцыі.

Далейшае пытаньне гучэла: Чаму вернікі Расейскай Зарубежнай Царквы змушаныя плаціць нямецкі касьцельны падатак і ці могуць быць звольненыя ад яго тыя зь іх, што жывуць у Д. П.-лягерах? Адказ: Абкладаньне падаткам вернікаў Р. З. Ц. праводзіцца немцамі згодна зь перадваенным пагадненьнем між нямецкім урадам і кіраўніцтвам Расейскай Зарубежнай Царквы. Як праўная спадчына нямецкае дзяржавы, справа гэтая можа быць выясьненая толькі зь немцамі.

Чаму тыя Д. П., што працуюць пры арыях, дастаюць большую плату за тых, што выконваюць тую-ж самую працу ў Д. П.-лягерах? Паводля сп. Браўды тут дзьве галоўныя прычыны: 1. хто працуе ў вялікім горадзе (Ортсгрупа 1), зарабляе больш, чымсьці ягоны калега па прафэсіі на правінцыі (Ортсгрупа II), 2. хто ёсьць адказны за шмат лягераў, мусіць і зарабляць больш, чым той, хто адказвае за адзін лягер.

Якія крокі прарабіла ІРО, каб выкарыстаць дэкляраваную, Нацыянальнымі Камітэтамі дапамогу ў працы ІРО?

У вадказе былі высьветлены наступныя факты: Галоўная Гаспода на амэрыканскую зону была пераслала ў ОМГУС — Бэрлін усе статуты нацыянальных камітэтаў на зацьверджаньне. Аднак ОМГУС палічыў сябе за некампэтэнтнага ў гэтай справе. Цяпер статуты высланыя ў Галоўную Гасподу Арміі ў Франкфурце. Незалежна ад таго, які гэта дасьць вынік, фактычнае прызнаньне нацыянальных камітэтаў ужо наступіла хоць-бы ў тым сэнсе, што адбываюцца частыя канфэрэнцыі з дэлегатамі гэтых камітэтаў у розных справах Д. П.

Якія пляны й намеры мае ІРО ў дачыненьні да старых людзей сярод Д. П.? Аказваецца розных плянаў ёсьць шмат, але эміграцыя для іх пакуль што магчымая толькі пры сем'ях. Дапамогі спадзявацца магчыма ад Сусьветнае Царкоўнае Службы.

На ўсе пытаньні ў справе эміграцыі ў ЗША, быў дадзены кароткі адказ: пакуль што нічога канкрэтнага ня ведама. Сп. Карузі якраз сяньня прыбыў у Эўропу і будзе заўтра на скліканай у гэтай справе канфэрэнцыі ў Франкфурце.

### ПРАФЭСІІ СЯРОД Д. П.

Інфармацыйная Цэнтраля Задзіночаных Нацыяў на Эўропу ў Жэнэве падае да ведама, што сярод жыхароў эўрапэйскіх лягераў Д. П., як мужчын, так і жанчын, знаходзяцца амаль усе катэгорыі розных прафэсыяў, пачынаючы ад дасьледавальнікаў атамнае энэргіі, а канчаючы на звычайных работніках.

Спасярод 625.000 Д. П., якія ў канцы сакавіка сёлета знаходзіліся пад апекай ІРО, было 340.000 або 54% працаздольных. Астальныя 285.000 — гэта дзеці да 16 год, асобы звыш 65 год, маткі з малымі дзецьмі, асобы, што ў сувязі з эміграцыяй ці рэпатрыяцыяй знаходзіліся ў дарозе і не маглі быць абнятыя статыстыкай, ды вельмі малая колькасьць зацяжна хворых і калекаў.

Галоўныя групы прафэсіяў сярод працаздольных паводля агульнай колькасьці наступныя:

| | мужч. | прац. | жанч. | прац. |
|---|---|---|---|---|
| Разам | **226.690** | 100.0 | **113.788** | 100.0 |
| Вольныя прафэсіі | 28.970 | 12.8 | 14.577 | 12.8 |
| Духавенства і гандлёвыя працаўнікі | 11.289 | 5.0 | 9.644 | 8.5 |
| Урадаўцы і канцэлярскія працаўнікі | 6.313 | 2.8 | 20.136 | 17.7 |
| Земляробы | 57.351 | 25.3 | 18.613 | 16.3 |
| Кваліфікаваныя работнікі | 76.609 | 33.8 | 21.583 | 19.0 |
| Няпоўна кваліфікаваныя работнікі | 19.439 | 8.5 | 4.308 | 3.8 |
| Іншыя | 26.719 | 11.8 | 24.907 | 21.9 |

Гэтая-ж справаздача дзеліць усіх працаздольных на дзьве групы паводля іхнага веку: ад 16 да 45 і ад 45 да 65 год. Але ранейшая справаздача падае, што 87% усіх ДП, што знаходзяцца пад апекаю ІРО, належыць да групы ніжэй 45 год.

Сярод вольных мужчынскіх прафэсіяў найчасцей спатыкаюцца наступныя: прафэсары і настаўнікі — 2.115, кантралёры і бугальтары — 1.950, аграномы — 1.423, юрыстыя — 1.283, лекары — 1.150, духоўнікі — 1.119, інжынеры — 1.089, лясныя інжынеры й тэхнікі — 1.021. Спасярод жанчын тут пераважна знаходзім: мэдыцынскіх сёстраў — 2.566, настаўніц — 2.110, бугальтарак — 1.042, дэнтыстак — 462, узгадавальніц — 460, лекарак — 459.

Цікавыя прыносіць вынікі далейшы перагляд жаночых прафэсіяў. Там мы знаходзім у не малой колькасьці жанчын у якасьці кандуктараў, пажарнікаў, паліцэйскіх, рыбакоў, паляўнічых, сьлёсараў, кавалёў, муляроў, каменшчыкаў, самалётных мэханікаў, маракоў, навет ладавальніц гармат і ўзрывальшчыц і ў якасьці шэрагу іншых мужчынскіх прафэсіяў. Гэта паказвае, што ступень эманцыпацыі жанчын і зраўнаньня іх з мужчынамі сярод ДП ёсьць нятолькі дастатковая, але й рэкордная.

---

якімсь генэралам чужой акупанцкай паліцыі, а тым больш паліцыі гітлероўскай, што мае ў сьвеце такую нядобрую «славу».

**2-ое пытаньне:** Што Вы скажыце аб 2-ім Усебеларускім Кангрэсе, які пацьвердзіў паўнамоцтвы 1-га Ўсебеларускага Кангрэсу?

**Адказ сп. Прэзыдэнта:** Ніякім чынам «Другога Кангрэсу» нельга назваць «усебеларускім». Праўдзівае яму імя — гэта нарада пакліканых сп. Астроўскім людзей. За нямецкай акупацыі такіх «нарадаў» адбылося аж 3. Першая такая «нарада» была арганізаваная немцамі цераз Ермачэнку ў травені 1942 г. Другая, праўда, трошкі меншая, адбылася ў Бэрліне з прывезенымі, быццам на экскурсію, беларускімі адміністратарамі. Вось-жа, каб быць пасьлядоўным як у сэнсе зьместу гэтых зьездаў, так і храналёгіі, — «зьезд» сп. Астроўскага трэба назваць ня «2-ім Кангрэсам», але — «3-ім склікам».

На ўсе гэтыя «склікі» немцы глядзелі, як на спосаб, каб прыцягнуць беларускую інтэлігенцыю да як найбольшага супрацоўніцтва зь імі, а беларуская інтэлігенцыя, — каб як найбольш вырваць з зубоў акупанта магымасьцяў дзеля абароны беларускага народу ад нацыстаўскага тэрору.

Зь 1-га Ўсебеларускага Кангрэсу нарадзілася Беларуская Народная Рэспубліка — дзяржава, прызнаная «дэ юрэ» 10 сувэрэннымі дзяржавамі сьвету і амаль усімі народамі сьвету «дэ факто». «2-гі Кангрэс» сп. Астроўскага ні аб рэспубліцы, ні аб якойсь іншай, хоць-бы нат дыктатарскай беларускай дзяржаве не пакінуў і ценю. Гаварылася толькі ўсьцяж аб «Цэнтральнай Радзе», змаганьні з бальшавізмам і перамозе гітлераўскай Нямеччыны, а што гэта была за «Рада», якія яна мела правы й якія правы меў ейны прэзыдэнт, дык аб гэтым найлепш гаворыць статут гэтае «Рады», апрацаваны і падпісаны нямецкім генэралам фон Готбэргам: «На чале Беларускай Цэнтральнай Рады стаіць прэзыдэнт, які прызначаецца й звальняецца Генэральным Камісарам. Астатніх сяброў Рады прызначае Генэральны Камісар паводля прадстаўленьня прэзыдэнта» (параграф 4), «Свае распараджэньні й кіраўнічыя пастановы выдае Беларуская Цэнтральная Рада паводля згоды Генэральнага Камісара» (параграф 5).

**3-ае пытаньне:** Ці магчымая анкета сярод беларускае эміграцыі аб прызнаньні: прэзыдэнта Астроўскага ці прэзыдэнта па тэстамэнту?

**Адказ сп. Прэзыдэнта:** Немагчымая. Ніводная навет з найбольшых колькасна эміграцыяў у сьвеце такой анкеты не праводзіць, бо такі прэзыдэнт стаўся-б толькі прадстаўніком эміграцыі, а не ўсяго народу.

Сп. Шаўцоў, перабіваючы: Выбачце, я не аб прэзыдэнце, а аб прадстаўніцтве эміграцыі.

Адказ сп. Прэзыдэнта: Ясна, такія выбары магчымыя й яны адбываюцца ўсюды. Вось нядаўна адбыліся выбары ў такое эміграцыйнае прадстаўніцтва беларусаў у Нямеччыне — у Беларускі Нацыянальны Камітэт. Дзіўна толькі, што некаторая частка выбары гэтыя байкатавала і праводзіла такія-ж выбары асобна.

**4-ае пытаньне:** Што Вы скажеце аб паўнамоцтвах беларусаў для палякаў, аб якіх пісала газэта «Кроніка»?

**Адказ сп. Прэзыдэнта:** Чыясьці выдумка або правакацыя. Было аб гэтым між іншым спраставаньне ў беларускай прэсе.

**5-ае пытаньне:** якой Вы думкі аб праграме «Крывічоў»?

**Адказ сп. Прэзыдэнта:** Калі ходзіць аб якойсь палітычнай праграме «крывічоў», дык ведаю, што такой нідзе няма. А тое, што сяньня зарубежніцкая «прэса» называе «крывічамі» ўсіх беларускіх незалежнікаў, дык гэта толькі ейная выдумка. Ведама, што ў успомненай «прэсе» называюць нат і ўсю Раду БНР «крывіцкай», а ў тым ліку і мяне асабіста, хоць гэтым спадаром добра ведама, што мы ў Францыі, Англіі і таксама ў Нямеччыне супраць якой-колечы замены сяньня нашага нацыянальнага назову, уважаючы гэтую справу не на часе.

Не разумею, чаму з гэтага рабіць аж такую буру! У демакратычным грамадзтве кажны грамадзянін мае права высунуць якісь праект і яго абараняць.

Дзіўлюся толькі, чаму зарубежнікі, будучыя такімі праціўнікамі назову «Крывія», аж гэтак папулярызуюць гэты назоў у прэсе і тым самым найбольш спрычыняюцца да ягонае папулярызацыі.

**6-ае пытаньне:** Што Вы скажеце аб выступленьні «Бацькаўшчыны» аб «квісьлінгах» і аб правакацыі жаўнераў?

**Адказ сп. Прэзыдэнта:** Артыкул гэты быў няўмела зрэдагаваны, бо назвалі «квісьлінгаў» агульна, не падаўшы іхных імёнаў.

Гаварыць-жа аб зрадніках свайго народу, не называючы іх па імені — гэта значыць хаваць іх. А той запраўдны зраднік будзе тады першы крычаць і паказваць пальцамі на іншых, ні ў чым не вінаватых, а спасярод тых невінаватых знойдуцца наіўныя, што прыймуць гэта на свой рахунак.

У прынцыпе-ж зраднікаў хаваць ня можна, бо гэтага сорту людзі, як людзі бяз усякай этыкі й маралі, ніколі не пакаяцца, калі ім будуць дароўваць. Караць сяньня нашых зраднікаў мы ня маем ніякае змогі, але выкрываць іх перад сваім грамадзянствам мусім, бо як-жа інакш ад іх адгарадзіцца ў іхнай далейшай злачыннай дзейнасьці.

У беларускім вызвольным руху, як і ў жыцьці ўсіх іншых народаў, заўсёды такіх зраднікаў ізалёўвалі ад свайго грамадзтва, ня гледзячы нат на іхныя папярэдні заслугі. А ў нашым грамадзтве таксама былі і ёсьць такія зраднікі, якія выбралі сабе гэта за прафэсію. Надовячы ён служыў камінтэрну, учора польскаму ваяводу, потым танцаваў, вылазячы із скуры, нямецкім тыранам, а сяньня таксама вылазіць і пачынае зноў старацца пралезьці ў рады беларускіх, менш выробленых палітычна масаў, праводзячы для чыейсь карысьці сваю разбуральную работу. Ці-ж гэта не прафэсыянальна-агентурныя тыпы і ці можна аб іх маўчаць?

Што да «правакацыі» беларускіх жаўнераў, дык, бязумоўна, правакацыя гэтая ёсьць, і то ня толькі жаўнераў. Трэба толькі добра разабрацца, зь якога яна йдзе боку.

Ёсьць, бачыце, група людзей, якія за ўсякую цану хацелі-б бачыць беларускіх жаўнераў у чужым мундзіры, а ў тым ліку і ў мундзіры нямецка-гітлероўскім. Гэтая група людзей, разьлічваючы на палітычную нявыробленасьць некаторых беларусаў, так да іх падходзіць:

Калі вы выракаецеся — кажуць яны — тых, што вам надалі вайсковыя рангі, мусіце, лягічна, выракчыся й сваіх рангаў, а БНР, прыкладам, што ня прызнае аўтарытэту Астроўскага, мусіць, кансэквэнтна, ня прызнаць і вайсковых рангаў, наданых Астроўскім.

Згадзіўшыся з такой «лёгікай», сяньняшняе Задзіночаньне Беларускіх Вэтэранаў мусіла-б адразу разьвязацца, бо такая «лёгіка» забавязвала-б вайскавікоў беларусаў з чырвонае арміі застацца вернымі да сьмерці генэралісімусу Сталіну за наданьне ім афіцэрскіх рангаў, другія польскаму ўраду, трэйція — расейскім манархістым, чацьвертыя, што атрымлілі ў розных беларускіх фармацыях, створаных за нямецкай акупацыі, — немцам.

Закідаць, ці лепш угаварваць беларускім вайскоўцам нээтычнасьць і немаральнасьць за «зраду» сваім ранейшым «аўтарытэтам», і **ёсьць правакацыяй,** у якой «зашыфроўваюцца» галоўным чынам дзьве хітрыя ідэйкі: 1. прадставіць сьвету беларускага вайскоўца, як бязідэйнага й бяздушнага манэкіна, якога мог-бы ўважаць чуць не за сваю собскасьць той, хто надзеў на яго мундзір, і 2. каб беларускія вайскоўцы прадэманстравалі свае сымпатыі і вернасьць стаўленікам нямецкіх акупантаў.

Такая правакацыя праводзіцца ня толькі ў дачыненьні да вайскоўцаў, але й да цывільных. Гэткія-ж закіды «зрады» з боку прыхільнікаў сп. Астроўскага робяцца і былым сябром БЦР і ўдзельнікам «2-га кангрэсу». Уявім сабе на хвіліну, што ўсе сябры БЦР і ўдзельнікі гэнага «3-га скліку» прызналі апошні за 2-гі Ўсебеларускі Нацыянальны Кангрэс, як праўнае і свабоднае выяўленьне народнае волі, дык у якой-жа тады ролі выглядалі-б гэныя «дэлегаты» на фоне ўсіх тых пахвалаў і прысягаў вернасьці немцам, высказанымі некаторымі прамоўцамі і ў некаторых дакумэнтах «зьезду»? Прызнаўшы гэны зьезд праўным і свабодным, мусілі-б мы тады кансэквэнтна прызнаваць, што беларускі народ у цэлым ня толькі апрабаваў акупацыйную палітыку немцаў у Беларусі з усімі іхнымі дзікімі актамі тэрору, а нат захопліваўся ёй. І ці-ж гэта ня ёсьць таксама правакацыя?

(Заканчэньне будзе).

